Гродна
№10 (516),
19 мая 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ





# Дыяцэзіяльныя дні моладзі 2019

## Напоўніць сэнсам сваё служэнне Пану

**З 6 па 8 мая ў парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне праходзілі 26-ыя Дыяцэзіяльныя дні моладзі.**

Дэвізам сёлетняй сустрэчы сталі словы: "Па прыкладзе Марыі буду служыць Пану". Гэтыя словы працягвалі тэму Сусветных дзён моладзі, якія ў студзені прайшлі ў Панаме пад дэвізам "Вось я, слуга Пана, няхай мне станецца паводле твайго слова" (Лк 1, 38).

• працяг на с. 3

"Касцёл малады, калі ён з'ўляецца сабой, калі ўмее вярнуцца да Крыніцы". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**V ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 13, 31–33а. 34–35**

Калі Юда выйшаў з вячэрніка, Езус сказаў: "Цяпер услаўлены Сын Чалавечы, а Бог услаўлены ў Ім. Калі Бог уславіўся ў Ім, то і Бог уславіць Яго ў сабе, і хутка ўславіць Яго. Дзеці, яшчэ крыху Я буду з вамі. Новую запаведзь даю вам, каб вы любілі адзін аднаго. Як Я палюбіў вас, так і вы любіце адзін аднаго. Па гэтым усе пазнаюць, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў адзін да аднаго".

### ЛЮБОЎ ЯК РАСПАЗНАВАЛЬНЫ ЗНАК

Падчас Апошняй Вячэры Езус прагне падрыхтаваць сваіх вучняў да пасхальных падзей. Звяртаючыся да апосталаў "дзеці", паказвае на блізкія адносіны з чалавекам. Разам з тым, пакідае новую запаведзь: каб любілі адзін аднаго так, як Ён іх палюбіў. А мы добра ведаем, што любоў Божага Сына бязмежная, нязменная і верная да канца. Гэта любоў, якая ахвяруе сябе за бліжняга, не застаецца абыякавай, не закрываецца на патрэбы іншых, а адмаўляецца ад многіх прыбыткаў на карысць братоў і сясцёр. Такая любоў з'яўляецца распазнавальным знакам для пераемнікаў Хрыста.

Праз павагу і разуменне мы павінны ўзрастаць у святасці, заўсёды беручы прыклад з Настаўніка, які памёр за чалавека на крыжы. Жыццё ва ўзаемнай любові з'яўляецца неаддзельнай умовай для ўзрастання і развіцця Касцёла.

**Якім чынам я штодзённа рэалізую запаведзь любові, якую даў Езус?**

**Што магу ахвяраваць, прысвяціць, страціць, каб дасягнуць вечнага жыцця?**

**VI ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 14, 23–29**

Езус сказаў сваім вучням: "Калі хто любіць Мяне, той захоўвае слова Маё, і палюбіць таго Айцец Мой, і прыйдзем да яго, і зробім жыллё ў яго. Хто не любіць Мяне, той не захоўвае слоў Маіх. А слова, якое вы чуеце, не Маё, але Айца, які паслаў Мяне. Я сказаў вам гэта, будучы з вамі. А Суцяшальнік, Святы Дух, якога Айцец пашле ў імя Маё, навучыць вас усяму і нагадае вам пра ўсё, што Я сказаў вам. Спакой пакідаю вам, спакой Мой даю вам. Не так, як дае свет, Я вам даю. Няхай не трывожыцца сэрца вашае і не баіцца. Вы чулі, што Я сказаў вам: адыходжу і прыйду да вас. Калі б вы Мяне любілі, то радаваліся б, што Я іду да Айца, бо Айцец Мой большы за Мяне. І цяпер Я сказаў вам, перш чым гэта станецца, каб вы паверылі, калі гэта адбудзецца".

### ХРЫСЦІЯНІН ЯК НОСЬБІТ СПАКОЮ

Уваскрослы Хрыстос вітае сваіх вучняў словамі "Спакой вам". Такім чынам перадае ім свой спакой, а менавіта хоча сказаць, што наш спакой – у Ім, што гэта Ён з'яўляецца тым спакоем.

Быць хрысціянінам – значыць адкрываць сваё сэрца, каб цешыцца прысутнасцю Адзінага Бога, а таксама несці Яго спакой разам з любоўю і паяднаннем бліжняму. Каб маглі рабіць гэта, трэба, каб спачатку ён пасяліўся ў нас. Спакой не можа быць змярцвеласцю, бездапаможнасцю, бяздзейнасцю. Ён павінен выкараніць страхі і трывогі з нашай душы і з душ іншых. Будуемы на абы-чым, з'яўляецца ашукваннем сябе і адначасова ачагом хаосу.

Узгоднім сваё жыццё і паводзіны з Божай воляй і патрабаваннямі Яго любові ды ўласнага паклікання. Тады нам удасца асягнуць сапраўдны мір з самім сабой, з Богам і з людзьмі.

**Ці з'яўляюся я чалавекам спакою?**

**Што напаўняе маё сэрца Божым спакоем?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Служыць, альбо выконваць волю Пана

*Цудоўнай традыцыяй у Гродзенскім Касцёле сталі штогадовыя сустрэчы моладзі, якія адбываюцца на пачатку мая. Мноства хлопцаў і дзяўчат прыбываюць з розных куткоў дыяцэзіі, каб супольна падзякаваць Богу за цудоўны дар маладосці, за скарб веры, які атрымалі ад папярэдніх пакаленняў, за ласку святога хросту, якая раз і назаўсёды далучыла іх да супольнасці Хрыстовага Касцёла.*

Маладыя людзі збіраюцца разам на заклік сэрца ў перакананні, што іх вера павінна быць як светач, які не ўтойваюць баязліва ад свету, не хаваюць пад пасудзінай, а адважна ставяць на падсвечніку, каб зззяў ім і ўсім, хто прагне жыць у бляску хвалы Пана.

Падчас сёлетняй сустрэчы моладзь вучылася таму, як у сучаснасці служыць Богу і людзям, каб рэалізаваць сваё жыццёвае пакліканне. "Мы – Яго справа, створаныя ў Хрысце Езусе для добрых учынкаў, якія Бог загадзя падрыхтаваў, каб мы паступалі згодна з імі" (Эф 2, 10). Арганізатары імкнуліся данесці маладым людзям, што яны існуюць, каб нешта даць ад сябе і ўзбагаціць навакольны свет.

Усе мы для нечага створаны. Усемагутны для кожнага мае заданне, місію для выканання, якую трэба пазнаць і рэалізаваць. Яго воля праяўляецца паступова, па меры нашага духоўнага і эмацыянальнага ўзрастання. Усе выклікі, якія Пан скіроўвае, вынікаюць з асабістых патрэб і жаданняў чалавека, а таксама з патрэб Божага Валадарства, якое ёсць сярод нас.

Уменне шукаць і выконваць волю Стварыцеля з'яўляецца найперш дарам, які мы атрымліваем ад Яго, і толькі потым заданнем і высілкам – нашым дарам Усемагутнаму. Каб распазнаць і выканаць Божую волю, неабходна спачатку адкрыць сапраўдны вобраз Айца, каб пазней быць здольнымі прымаць і аддаваць Яму тое, што раней атрымалі.

Бог вельмі далікатна вядзе людзей па розных сцежках, не прымушаючы, не разбураючы свабоду. Ведае, што ўтоена ў кожным сэрцы. Найвышэйшага нельга ашукаць – ніхто для Яго не сюрпрыз. Таму, калі хочам спазнаць, у чым заключаецца Божы план для нас, трэба нястомна маліцца аб распазнанні і разуменні знакаў.

Варта адкрыць сваё сэрца і розум. Не быць тымі, хто мае вочы, каб глядзець, але не бачыць. Не быць тымі, хто мае вушы, каб слухаць, але не чуе. Зробім Святога Духа сваім Правадніком, каб навучыў нас гэтаму.

**Дарагія Чытачы!**

Просім Бога праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі, каб людзі, якія перажываюць вясну жыцця, адкрываліся на слова Пана і адкрывалі Езуса Хрыста як цэнтр і паўнату свайго існавання. Молімся за нашу моладзь, каб магла годна сведчыць, што Евангелле заўсёды жывое і ўсё яшчэ здольна захапляць і зачароўваць, каб магла выканаць падрыхтаваны для яе Усемагутным пакліканні і зрабіць наш Касцёл маладым!

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Камісія па справах эканомікі і дыяцэзіяльных структур

Да задач Сінадальнай камісіі па справах эканомікі і дыяцэзіяльных структур належыць унутраная арганізацыя лакальнага Касцёла. Прадметам пасяджэнняў Камісіі з'яўляюцца пытанні, змешчаныя ў рабочым праекце, прадстаўленым генеральным сакратарыятам Сінода. Галоўныя тэмы – дыяцэзіяльныя і парафіяльныя фінансы, заробак духоўных асоб і свецкіх працаўнікоў касцёльных структур, а таксама распараджэнне касцёльным дабром.

У сувязі са спецыфічным характарам пытанняў, якія належаць да кампетэнцыі Камісіі, яна складаецца выключна з дыяцэзіяльных святароў. Сярод яе членаў – пробашчы буйных гарадскіх парафій і невялічкіх вясковых супольнасцей, ксяндзы, якія займаюць розныя пасады ў курыі, і парафіяльныя вікарыі, душпастыры са шматгадовым досведам і тыя, хто толькі распачынае святарскі шлях. Такая разнастайнасць нават абавязковая, паколькі разглядаемыя пытанні датычаць усёй дыяцэзіяльнай супольнасці, а сутнасць сінадальных прац заключаецца ў распрацоўцы такіх рашэнняў, якія былі б аптымальнымі з пункту гледжання ўсіх членаў мясцовага Касцёла.

У ходзе працы Камісіі вырашана прапанаваць біскупу заснаваць у дыяцэзіі Раду па справах эканомікі. У яе кампетэнцыю ўваходзіла б, між іншым, апрацоўка бюджэту і эканамічнай сітуацыі ў мясцовым Касцёле, а таксама кантроль над распараджэннем фінансамі асобных парафій. Рада магла б выконваць кансультатыўную функцыю ў абмеркаванні рацыянальнасці парафіяльных мерапрыемстваў і праектаў, найбольш эфектыўных спосабаў іх рэалізацыі, а таксама прыярытэтаў у стратэгіі кіравання матэрыяльнымі каштоўнасцямі парафіі.

Задача Камісіі па справах эканомікі і дыяцэзіяльных структур палягае на прыстасаванні прапанаваных рашэнняў да патрэб і рэалій Гродзенскага Касцёла, а дзе гэта неабходна – на распрацоўцы іншых рашэнняў, больш прыдатных для актуальнай сітуацыі.

*Кс. Юрый Марціновіч*



# Дыяцэзіяльныя дні моладзі 2019

## Напоўніць сэнсам сваё служэнне Пану

● працяг са с. 1

### АХВЯРУЮЧЫ, АТРЫМЛІВАЕШ

Моладзевая сустрэча сабрала больш за тысячу чалавек з розных парафій Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Хлопцам і дзяўчатам спадарожнічалі іх душпастыры, манаскія сёстры і катэхеты. Каб стала магчымым размяшчэнне і забеспячэнне ўдзельнікаў усім неабходным, спатрэбілася дапамога 60-ці валанцёраў і 230-ці сямей з горада і прылягаючых вёсак, якія згадзіліся размясціць у сябе на начлег маладых вернікаў.

Вядома, арганізацыя і правядзенне такога маштабнага мерапрыемства патрабуе сур'ёзнасці і дакладнага размеркавання абавязкаў. Хтосьці з валанцёраў адказваў за медыцынскую службу, хтосьці – за ахову тэрыторыі, іншыя памагатыя рэгулявалі рух падчас выдачы пасілкаў. Калі камусьці з валанцёраў трэба было адлучыцца, ён павінен быў знайсці сабе замену на гэты час. Пакідаць свой пост пустуючым нельга. Раптам спатрэбіцца камунебудзь памераць ціск?

***“Я мела 2 функцыі: распаўсюджванне інфармацыі пра ДДМ у інтэрнэце і рэгістрацыю ўдзельнікаў у дзень прыезду. Адзначала прыбыўшыя парафіі і выдавала кожнаму маладзёну адмысловыя атрыбуты. Пасля прыстаўляла да групы вернікаў іншага памагатага, які павінен быў правесці іх да месца начлегу. Часам расло напружанне з-за таго, што збіралася вялікая колькасць людзей і не хапала рук, каб заняцца ўсімі. Аднак згуртаванасць валанцёраў дапамагла справіцца”,*** – распавядае Марыя Маёрава.

Сям'я Гурскіх была адной з тых, што гасцілі ў сябе маладзёнаў. Размовы пра тое, браць ці не браць на начлег, у гаспадароў нават не вялося. Адразу вырашалі, колькі маладых людзей будуць прымаць. У выніку ў сям'і спыніліся 6 хлопцаў. ***“Мы маем траіх дзяцей, якія ўжо паспелі пабываць на ДДМ у Смаргоні, Гродне, Мастах. Імі жа там таксама хтосьці апекаваўся,*** – заўважае спадарыня Ірына. – ***Наша сям'я старалася прыняць гасцей на годным узроўні. Задзейнічаны быў кожны член сям'і. Малодшая дачка прыбіралася ў хаце перад прыездам маладых людзей. Муж ездзіў начаваць да сваёй матулі, каб было дзе размясціць усіх хлопцаў. Аднак спецыяльна вяртаўся штодня, каб напячы бліноў і падвезці іх да касцёла. Нават бабуля, якая мае ўжо 90 гадоў, была пры справе – абірала бульбу для вячэры”.***




Спадарыня Ірына адзначае, што хлопцы трапіліся слаўныя – шчырыя і набожныя. Дзяліліся, што з-за надвор'я давялося парадкам памёрзнуць, але яны ані разу не пашкадавалі, што прыехалі на Дні моладзі. ***“Адзін з хлопцаў патэлефанаваў нам пасля вяртання дадому, каб яшчэ раз падзякаваць за гасціннасць. Дробязь, а прыемна”,*** – дадае жанчына.



### У ІМКНЕННІ ДА ДУХОЎНАГА ЎДАСКАНАЛЕННЯ

Зразумела, галоўным у моладзевай сустрэчы з'яўляецца рэлігійны складнік. Вернікі прыязджаюць, каб у першую чаргу стаць бліжэй да Бога, узбагаціцца духоўна, абмяняцца думкамі і перажываннямі з тымі, хто раздзяляе такія ж погляды на жыццё. Таму нікога не хвалюе, што, магчыма, прыйдзецца мокнуць пад дажджом або начаваць у цеснаце. Перадусім, хочацца наталіць прагненні душы.

***“ДДМ сталі для мяне часам, калі можна вырвацца з паўсядзённай мітусні, засяродзіцца на сапраўды істотных рэчах. Падчас сёлетняй сустрэчы мы шмат разважалі пра служэнне Богу і бліжнім,*** – распавядае Яўген Мозер. – ***Я нанова ўсвядоміў, што вельмі важную ролю ў жыцці хрысціяніна адыгрывае міласэрнасць, дабрачыннасць. Нават калі твая ахвяра невялікая, яна можа вельмі дапамагчы камусьці. Таксама, як з невялічкага гарчычнага зерня вырастае вялікае дрэва. Разам з тым, вярнуўся дадому з думкай, што нам часта не хапае адвагі. Мала рашучасці не толькі ў вялікіх справах, абвяшчэнні Евангелля, але і ў дробных: самому прапанаваць дапамогу сябру, даслухаць да канца просьбу валацугі на вуліцы замест таго, каб паскорыць крок… Ёсць аб чым паразважаць да наступнай моладзевай сустрэчы”.***

### ПА ПРЫКЛАДЗЕ ПІЯРСКАЙ ДУХОЎНАСЦІ

Сёлетнія Дыяцэзіяльныя дні моладзі праходзілі ў парафіі айцоў піяраў, якія першасным заданнем лічаць клопат і выхаванне ў набожнасці дзяцей і моладзі. Заснавальнікам Ордэна Пабожных Школ з'яўляецца св. Юзаф Каласанс, які адкрыў першую бясплатную і агульнадаступную пачатковую школу ў Еўропе, дбаў пра духоўнае ўзрастанне выхаванцаў і акцэнтаваў увагу на важнасці фармацыі бацькоў.

Дзейнасць айцоў піяраў служыць добрым прыкладам таго, як быць на адной хвалі з моладдзю. Манахі ў Шчучыне ладзяць для маладых людзей дні духоўных сустрэч, “Канікулы з Богам”, “касцёльныя лінейкі”, пілігрымкі на веласіпедах, інтэграцыйныя выезды, балі з нагоды Дня св. Каласанса, акцыі накшталт “Таемны Санта” да Раства і інш.

***“Крыху пазнаёміць моладзь з піярскай духоўнасцю пастараліся і падчас ДДМ,*** – адзначае а. Віталь Слука SP. – ***Маліліся Вяночкам Дванаццаці Зорак, складзеным нашым заснавальнікам, распавядалі пра служэнне ордэна падчас адной з катэхез. Перадусім імкнуліся, каб моладзь адчувала сябе тут камфортна, як дома. Ці не ў гэтым галоўная праява нашай харызмы?”.***

А. Віталь упэўнены, што падобныя моладзевыя сустрэчы здольны распаліць любоў хлопцаў і дзяўчат да Бога, а тым самым – да бліжняга. Паводле слоў манаха, тут маладзёны сустракаюць шматлікіх аднадумцаў і тым самым пачынаюць адчуваць гонар ад прыналежнасці да хрысціянскай супольнасці. ***“Аднак галоўнае – гэта тое, што ДДМ з'яўляюцца магчымасцю стаць сведкам моцы маладога Касцёла”,*** – падсумоўвае а. Віталь.

*Ангеліна Марцішэўская*



## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Езус Хрыстус – наша надзея і самая прыгожая маладосць гэтага свету. Усё, да чаго Ён дакранаецца, становіцца новым, напаўняецца жыццём. Ён жыве і прагне, каб жыў ты!*

*Калі будзеш адчуваць сябе старым па прычыне смутку, крыўды, страхаў, сумневаў і паразаў, Збаўца заўсёды будзе побач з табой, каб зноў даць сілу і надзею. […] Як бы не аддаляўся ад Бога, Ён заўсёды будзе паблізу, чакаючы і заклікаючы цябе распачаць усё спачатку.*

*Фрагмент прамовы перад малітвай “Уладарка неба” на плошчы св. Аляксандра Неўскага ў Сафіі (Балгарыя), 05.05.2019*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Дыяцэзіяне старэйшага і сярэдняга ўзросту добра памятаюць часы, калі Касцёл на нашых землях пакутаваў з-за адсутнасці святароў. Тыя святыні, якія не былі зруйнаваны або забраны для свецкіх мэт, засталіся асірацелымі, пазбаўленымі душпастыраў, а вернікі нярэдка мусілі пераадольваць дзясяткі кіламетраў, каб мець магчымасць удзельнічаць у нядзельнай св. Імшы, прыступіць да сакраманту паяднання, ахрысціць дзіця ці ўзяць шлюб.*

*На шчасце, з пачатку 1990-ых гадоў сітуацыя змянілася ў лепшы бок. Дзякуючы адкрыццю ў Гродне Вышэйшай духоўнай семінарыі, якая выпусціла шматлікіх маладых святароў, удалося вярнуць нармальнае пастырскае служэнне амаль ва ўсіх парафіях дыяцэзіі. У некаторых месцах былі арганізаваны новыя супольнасці вернікаў, дынамічна развіваецца спецыялізаванае душпастырства.*

*Нягледзячы на гэтыя пазітыўныя змены, трэба сцвердзіць, што колькасць святароў у нашай дыяцэзіі ўсё яшчэ недастатковая. Больш за тое, з непакоем назіраем, як з года ў год памяншаецца колькасць кандыдатаў да святарства. Па розных прычынах сучасная моладзь мае сур'ёзныя цяжкасці з прыняццем дару паклікання, часта проста баіцца адказаць “так” на запрашэнне Езуса: “Ідзі за Мной”.*

*Таму прашу кожнага з Вас, дарагія Дыяцэзіяне, аб малітве ў інтэнцыі пакліканняў да святарства, асабліва ў Касцёле на Гродзеншчыне. Няхай з нашых вуснаў і сэрцаў будзе сыходзіць гарачая і поўная даверу просьба да Хрыста выслаць новых шматлікіх руплівых работнікаў на Яго жніво. Будзем верыць, што нашы малітвы, а таксама добрыя ўчынкі, адрачэнні і цярпенні, ахвяраваныя ў інтэнцыі пакліканняў, прынясуць плён узрастання колькасці тых, хто адважыцца пайсці за Хрыстом і прысвяціць сваё жыццё абвяшчэнню Божага Валадарства…*

*На велікадушнае і ахвотнае ўключэнне ў справу малітвы аб пакліканнях для дабра лакальнага Касцёла ўсіх Вас, дарагія Браты і Сёстры, з сэрца блаславяю.*

*Фрагмент Пастырскага ліста на Нядзелю Добрага Пастыра 2019*




◆ *Кангрэгацыя па справах кананізацыі адзначыла сваё 50-годдзе. Яна разам з Кангрэгацыяй Божага культу была створана папам Паўлам VI. Да 1969 года кананізацыйнымі справамі займалася Свяшчэнная кангрэгацыя абрадаў. Колькасць працэсаў, учыненых новым ведамствам за апошнія паўстагоддзя, перавышае праведзеныя на працягу папярэдніх 350-ці гадоў! Гэта дазволіла па-сапраўднаму падкрэсліць універсальнае вымярэнне святасці ў Касцёле, што не мае ні геаграфічных межаў, ні ўзроставых абмежаванняў. Сёння Кангрэгацыю па справах кананізацыі ўзначальвае кард. Анджэла Бечу.*

◆ *Канферэнцыя Епіскапату Партугаліі заклікала каталіцкія супольнасці падтрымліваць сужэнствы ў сувязі з павелічэннем колькасці разводаў у гэтай краіне. У душпастырскім пасланні біскупы заклікалі парафіі "падтрымліваць сужэнствы, асабліва перад абліччам крызісаў, якія яны перажываюць", між іншым, удзяляючы ім прафесійную дапамогу і кансультацыю. Партугалія з'яўляецца адным з еўрапейскіх лідэраў па колькасці разводаў. У 2018 годзе іх доля складала каля 65% на 100 заключаных грамадзянскіх шлюбаў. Для параўнання, у 1970 годзе яна дасягала ў Партугаліі толькі 0,6%.*

◆ *Вярхоўная Рада Украіны разгледзіць законапраекты, накіраваныя на развіццё ваеннага капеланства ў краіне і абарону ваенных капеланаў. Для гэтага ў парламент накіраваны адпаведны законапраект і альтэрнатыўная рэдакцыя да яго. Заканадаўчыя ініцыятывы распрацоўваліся на працягу апошніх 3-ох гадоў пры ўдзеле прафільных экспертаў і рэлігійнай абшчыны, у прыватнасці, Савета па справах пастырскай апекі пры Міністэрстве абароны.*

◆ *Каталіцкі святар атрымаў званне грамадзяніна года ў Індыі. А. Вайніс Джордж з Кангрэгацыі Місіянераў Сыноў Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі (айцы кларэтынцы) быў узнагароджаны за служэнне сярод убогіх на поўначы краіны, за актыўную адукацыйную і грамадскую дзейнасць. Адзнака айца кларэтынца – гэта таксама прызнанне заслуг усіх святароў і сясцёр, якія служаць у Індыі. Католікі тут жывуць ва ўмовах праследу. Складаюць меншасць: каля 2% насельніцтва краіны.*

◆ *Вядомая спявачка Мэрая Кэры на цырымоніі ўручэння прэміі "Billboard Icon Award" адкрыта падзялілася сведчаннем сваёй веры. "Я пачала пісаць музыку з неабходнасці выжыць, але таксама і каб выказацца. Проста хацела стварыць нешта, каб адчуць сябе годнай існавання... І калі я ў жыцці чамусьці навучылася, дык гэта таму, што з Богам усё магчыма. Упэўнілася: калі Ён хоча, каб нешта адбылося, так абавязкова станецца", – сказала спявачка ў сваім слове пасля ўручэння ёй узнагароды.*

*credo.pro; aleteia.org; niedziela.pl*



# Умацоўвайце свае сем'і разам з Маці Божай Тракельскай!

**25-годдзе ўстанаўлення дыяцэзіяльнага санктуарыя Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў, 10-годдзе каранацыі цудадзейнага абраза, а таксама 220 гадоў з моманту пабудовы мясцовага касцёла – такія важныя падзеі святкуе сёлета парафія Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў Тракелях (дэканат Радунь). Як мясцовыя вернікі рыхтуюцца да юбілейных урачыстасцей? Чым на працягу ўсяго года жыве санктуарый? Якія намаганні прыкладаюцца для таго, каб Тракелі былі вядомым духоўным і турыстычным цэнтрам? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае кусташ сактуарыя кс. Юрый Бяганскі.**

***– Кс. Юрый, сёлетнія ўрачыстасці ў гонар Маці Божай Тракельскай адбудуцца 12–13 ліпеня пад дэвізам: "Марыя, атулі нашы сем'і!". Чаму выбраны менавіта гэтыя словы?***

– Марыя – Маці, якая слухае сваіх дзяцей, атуляе іх сваёй пяшчотай, дапамагае несці крыж, разам усміхаецца і плача. Яна ніколі не саромеецца быць з людзьмі, не пагарджае іх зямным, духоўна абмежаваным жыццём і пакутамі. З матчыным клопатам і ласкай Марыя атуляе людскія душы, асвячае іх і лечыць.



Задача кожнай маці ў сям'і – прывесці сваіх дзяцей да Бога. Менавіта таму Найсвяцейшая Маці прыходзіць да нас, каб сказаць, што ў жыцці так важна паяднацца з Айцом, бесперапынна і пастаянна трываць у малітве. Сапраўдны Касцёл знаходзіцца там, дзе людзі моляцца разам з Марыяй і апосталамі. Калі ў нашых сям'ях не будзе малітвы, то не прыйдзем да Хрыста. Не зменіцца сітуацыя, калі мы не пераменімся да лепшага, калі не адродзіцца вернасць Богу і Яго наказам.

Марыя – прыклад для кожнай сям'і, якая імкнецца трываць у шчасці, любові. Таму так шмат людзей моляцца праз заступніцтва Маці Божай Тракельскай за адзінства і святасць у сем'ях. Заклікаю: умацоўвайцеся разам з Марыяй! Яна мае час для кожнага чалавека, мае жаданне слухаць, дапамагаць, атуляць па-мацярынску. Праз усё гэта Маці Божая перадае нам матывацыю на лепшае жыццё, сілы пасля падзення, выбар паміж сапраўдным і штучным. Прыслухайцеся да Марыі! Яна многае падкажа: і як асвяціць сем'і, і як зрабіць іх моцнымі.

***– Хутка будзе агучана праграма ліпеньскага свята. Прыадкрыйце, калі ласка, заслону: што чакае пілігрымаў, якія прыбудуць пакланіцца Марыі ў цудатворным абразе?***

– Вялікіх змен у праграме сёлетніх урачыстасцей, у параўнанні з мінулымі гадамі, не будзе. Але, тым не менш, ёсць некаторыя асаблівасці.



Зменіцца час св. Імшы, якую адправяць новапрэзбітэры: яна адбудзецца ў першы дзень увечары. Таксама будзе арганізавана канферэнцыя на тэму сям'і. Акрамя традыцыйных пунктаў праграмы запланавана аднаўленне шлюбных абяцанняў і сведчанні сем'яў, якія некалі даручылі Маці Божай Тракельскай свае праблемы і цяжкасці, а зараз хочуць расказаць пра незвычайныя ласкі, якія атрымалі дзякуючы малітвам перад цудатворным абразом. Вельмі спадзяёмся, што на сёлетнія ўрачыстасці прыбудзе больш пілігрымаў, чым звычайна.

***– А ці сярод вернікаў шмат гатовых дапамагаць, штодня ахвяраваць свой час і здольнасці?***

– Валанцёраў, дзякуй Богу, хапае. Я на працягу доўгага часу нёс служэнне ў Лідзе, таму на сённяшні дзень маю там шмат знаёмых. Многія з іх гатовы зрабіць свой унёсак у развіццё санктуарыя. У асноўным, гэта маладыя людзі ва ўзросце ад 30-ці гадоў, якія ўжо абзавяліся сем'ямі. Яны не хочуць згубіць сваю маладосць упустую, маюць актыўную жыццёвую пазіцыю і жадаюць пакінуць нейкі след пасля сябе. Ды і мясцовыя вернікі не абмінаюць падтрымкай і добрымі справамі. Нават старэйшыя людзі актыўна ўключаюцца ва ўсе ініцыятывы. Спачатку яны даволі крытычна ставіліся да маіх наватарскіх ідэй, а зараз у адзін голас кажуць, што мараць пажыць даўжэй, каб паглядзець, які стане санктуарый, калі рэалізуюцца ўсе задуманыя планы.

***– Санктуарый у Тракелях прымае пілігрымаў не толькі ў ліпені. Чым жыве дом Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў на працягу года?***

– Сапраўды, людзей, якія нясуць свае інтэнцыі, падзякі і просьбы да Марыі, ніколі не бракуе. Прыязджаюць пілігрымы з усёй Беларусі, Польшчы, Літвы. Для іх заўсёды адкрыты не толькі сама святыня, але і дамы мясцовых вернікаў. Таксама працуе ўтульны Дом пілігрыма на 18 спальных



месцаў, дзе падведзены ўсе камунікацыі.

У санктуарыі традыцыйна праходзяць сустрэчы такіх груп вернікаў, як Апостальства вечнай малітвы за святароў "Маргарытка", Колаў Жывога Ружанца, Францішканскага ордэна свецкіх, арганізоўваюцца рэкалекцыі для святароў.

Узнёслай і кранальнай падзеяй стала святкаванне ўрачыстасці Святой Сям'і. Сабралася шмат парафіян і паломнікаў. 15 пар аднавілі шлюбныя абяцанні і ўспомнілі, як пачыналася іх сямейнае жыццё. Сярод іх былі тыя, хто разам ужо 52 гады, і тыя, хто толькі год у шлюбе.

Можна адно парадавацца: людзі вераць, што моц блаславлення спашле на іх сем'і і блізкіх Божыя ласкі, а просьбы, якія яны трымаюць у сваіх сэрцах і давяраюць Марыі, будуць выслуханы.

Не так даўно, калі Гродзенская дыяцэзія адзначала Дзень маці, у тракельскім санктуарыі сабраліся мамы з бліжэйшай акругі, каб у сваіх малітвах падзякаваць за цудоўны дар мацярынства. Асабліва кранальным момантам былі сведчанні некаторых з іх. Агучаныя гісторыі кранулі сэрцы і не пакінулі абыякавымі нікога з прысутных. Варта адзначыць, што такі Дзень маці праходзіў упершыню. Спадзяёмся, гэта стане добрай традыцыяй.

А ўжо неўзабаве ў нашай парафіі пачнуцца святыя місіі. На працягу цэлага тыдня дзень у дзень будзем ахвяраваць свой час і сваю ўвагу Божаму слову. У касцёле адбудуцца адмысловыя набажэнствы, св. Імшы, катэхэзы. Некаторыя з іх адрасаваны ўсім вернікам, некаторыя – асобным групам, напрыклад, моладзі альбо дзецям. Таксама выйдзем за межы святыні: пройдзем Крыжовым шляхам па вуліцах вёскі.

***– Многія заўважылі, што санктуарый Маці Божай у Тракелях стаў прысутным у інтэрнэт-прасторы. Гэта жаданне ісці ў нагу з часам?***

– Я не адкрыю таямніцу, калі скажу, што зараз большасць людзей чэрпае інфармацыю ў інтэрнэце. Таму мы вырашылі зарэгістравацца ў сацыяльных сетках ВКонтакте, Instagram, а таксама стварыць уласны сайт trokiele.by, каб як мага больш людзей даведалася пра святое месца ў Тракелях. Там публікуем цікавыя звесткі пра санктуарый, пра жыццё мясцовай парафіі, таксама змяшчаем малітвы да Маці Божай, бо менавіта праз Яе мы крочым да Хрыста. Усе гэтыя намаганні – дзеля пашырэння культу цудатворнага абраза і прамоцыі святыні, якая адкрыта для кожнага, хто хоча зведаць радасць сустрэчы з Марыяй і пакланіцца Ёй.

***– Дзякуй за размову!***

*Кінга Красіцкая*

# Ахвярна дзейнічаюць на ніве Пана

СВЯТАРЫ З'ЯЎЛЯЮЦЦА ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ НІБЫ МАЯКАМІ НА МОРЫ, ШТО ДАЗВАЛЯЮЦЬ ЗНАЙСЦІСЯ ЗАБЛУКАЛЫМ КАРАБЛЯМ – ДУШАМ. ВУЧАЦЬ, ЯК ЖЫЦЬ, КАБ РАЗВІВАЦЬ ВЕТРАЗІ ВЕРЫ І КВІТНЕЦЬ ПЕРАД БОСКІМ АБЛІЧЧАМ. СЁННЯ ДЗЯКУЕМ КСЯНДЗАМ, ЯКІЯ СЛУЖАЦЬ У ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ, ЗА ГАДЫ АХВЯРНАЙ ПРАЦЫ І ЗАПРАШАЕМ ІХ АЗІРНУЦЦА НАЗАД, КАБ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА ПРОЙДЗЕНЫ СВЯТАРСКІ ШЛЯХ.



## Кс. Аляксандр Сямінскі

*5 гадоў святарства – галоўная нагода для ўдзячнасці на дадзеным этапе майго жыцця. Аднак гэтай даты ніколі б не было без сустрэчы з уваскрослым Хрыстом 20 гадоў таму – у Яго жывым і дзейсным Слове ды ў сакрамантах, асаблівым чынам сакрамантах пакаяння і Эўхарыстыі.*

*Ёсць такое выказванне: "Як трывога, то да Бога". І ў маім жыцці быў такі момант. Памятаю, была Вялікая субота. Споведзь. Адпушчэнне грахоў... Сапраўды, гэта быў дзень майго пераходу са смерці граху да жыцця з Хрыстом. Усё паступова пачало змяняцца да лепшага, я адчуваў радасць ад прысутнасці Пана. Ужо ведаў, які добры Бог, як цудоўна з Ім і як дрэнна без Яго, таму вяртацца да колішняга стылю жыцця мне, безумоўна, не хацелася.*

*Вера з'яўляецца дарогай. На ёй можа здарыцца не адно падзенне, але і не адно паўстанне, дзякуючы міласэрнасці Найвышэйшага. Важна змагацца і ісці далей, туды, куды вядзе Божы Провід. Пан удзяліў мне вялікія і неспасцігальныя ласкі: прывёў таго, хто некалі думаў, што яму не патрэбны святар, каб паяднацца з Богам, да дня пасвячэння і дазволіў працаваць у сваім вінаградніку. За цуд майго жыцця, навяртання, паклікання, за шчодрасць дароў я прагну аддаць Яму належныя падзяку і хвалу. Хачу таксама падзякаваць людзям, якіх Бог паставіў на маім шляху, якія дапамагалі мне дайсці да Яго алтара і далей падтрымліваюць сваёй малітвай, словам, учынкамі і прыкладам.*

*Дарога жыцця, веры, паклікання працягваецца далей. На ёй сустракаюцца пэўныя цяжкасці, але і радасці. Найбольшая радасць для святара – быць сведкам паяднання чалавека са Стварыцелем. І хоць паслуга ў канфесіянале не лёгкая, яна прыносіць шмат задавальнення ад дзеяння Божай міласэрнасці ў душах вернікаў. Заўсёды падбадзёрвае вера людзей і іх удзячнасць за паслугу. Галоўнае, каб чалавек не забываўся, што прычынай усяго з'яўляецца Бог, а ён – проста інструмент у руках Пана. Хоць і свабодны, аднак, усё ж, інструмент Божай міласэрнасці. Няхай і далей Усемагутны благаслаўляе мяне і дапамагае сваёй ласкай з верай і даверам служыць Яму і людзям заўсёды і ўсюды, "бо для Бога няма нічога немагчымага" (Лк 1, 37).*



## Кс. Андрэй Лішко

*На працягу 10-ці гадоў свайго святарства і, напэўна, праз усё жыццё буду шукаць адказу на пытанне: якім павінен быць святар, альбо якога святара сёння хочуць бачыць людзі...*

*У пасланні да Габрэяў у 5-ым раздзеле гаворыцца, што святар з людзей узяты і да людзей пасланы... Інакш кажучы, гэта такі самы чалавек, як і ўсе іншыя. Таму і людзі хочуць, мабыць, бачыць святара, у першую чаргу, як звычайнага чалавека, які не прыляцеў з космасу, з неба – ён, як усе.*

*Людзі хочуць бачыць святара чалавекам малітвы, які іх, як Добры Пастыр, пакіруе да Бога. Ён павінен быць пасрэднікам паміж Панам і людзьмі; гэта спалучаючае звяно, мост, па якім вернікі будуць ісці да Бога. Святар, як казаў папа Бенедыкт XVI, павінен быць "спецыялістам па сустрэчы чалавека з Богам".*

*Як адзначана ў пастаральнай канстытуцыі Касцёла "Gaudium et spes", дарога Касцёла – гэта чалавек, яго радасці і беды, праблемы і цяжкасці... Так і святар ва ўсе моманты жыцця павінен быць бліжка вернікаў, павінен даваць людзям Бога. Мне вельмі падабаецца ўрывак з Евангелля паводле Лукі, калі цяжарная Марыя спяшаецца да сваёй сваячкі Альжбеты, каб ёй дапамагчы (параўн. Лк 1, 39–55). Яна ідзе не толькі дапамагаць, але і нясе Бога. Дык вось, кожны ахрышчаны, а асаблівым чынам святар, павінен быць, прабачце за такое параўнанне, "цяжарны Богам", каб іншым людзям даваць Яго рознымі спосабамі: праз цэлебрацыю святых сакрамантаў, праз абвяшчэнне Добрай Навіны, праз сведчанне сваім жыццём і гэтак далей. Даваць Бога і сведчыць пра Яго 24 гадзіны ў суткі, а нават і больш...*

*Святар на моцы вялікага Божага дару – атрыманага сакраманту святарства – гэта "alter Christus", другі Хрыстос. Вось праграма паклікання і жыцця кожнага святара.*



## Кс. канонік Павел Салабуда

*15 гадоў святарства – не такі ўжо вялікі прамежак часу, аднак у маім выпадку ён быў багаты на разнастайны досвед. Першы год святарства – гэта паслуга ў парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску: кантакт з дзецьмі і моладдзю, супрацоўніцтва з пробашчам, які стаў для мяне добрым прыкладам адказнага і зычлівага душпастыра. Затым 4 гады навучання ва ўніверсітэце ў Любліне, дзе я здабыў чарговы вопыт і тытул магістра псіхалогіі. Пасля навучання па рашэнні біскупа на працягу 5-ці гадоў служыў пры курыі і займаўся, можна сказаць, больш канцылярскай працай: рэдакцыя газеты, вядзенне інтэрнэт-старонкі дыяцэзіяльнага партала, паслуга ў касцёльным судзе і сямейнай кансультацыі, лекцыі ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі і ў катэхетычным каледжы ў Баранавічах, стварэнне новых каталіцкіх праграм на дзяржаўным радыё і тэлебачанні, а таксама шмат іншых спраў, як, напрыклад, правядзенне І Кангрэса каталіцкіх СМІ ў Беларусі ці Чэмпіянату Еўропы па міні-футболе сярод святароў. Хадзіў у пілігрымкі, шмат ездзіў з рэкалекцыямі і казаннямі, ажно пакуль не быў прызначаны пробашчам новай парафіі Святога Духа ў Гродне. Такім чынам, як некалі заўважыў папа Францішак, я "адчуў пах авечак", таму што павінен быў ствараць і арганізоўваць парафію ад самага пачатку. І тады як ніколі адчуў, што служачы розным групам людзей, святар найбольш адчувае сябе святаром.*

*Што да цяжкасцей, з якімі мусіць сутыкацца ксёндз у нашай краіне... Перш за ўсё, гэта тое, што ён павінен быць спецыялістам ва ўсіх сферах: не толькі ў малітве, але і ў будаўніцтве і ў іншых рэчах. Цяжкія моманты хочацца памятаць менш за ўсё, але дзякуючы ім чалавек узрастае, фарміруе сваю паставу, умацоўваецца. Перш чым наша супольнасць атрымала пляцоўку пад будаўніцтва касцёла, вернікі збіраліся на малітву і набажэнствы каля старой капліцы. Памятаю, зімой былі вельмі вялікія маразы, часам дасягалі -25 градусаў, а св. Імша ў кожную нядзелю адпраўлялася на вуліцы пры крыжы. Не звяртаючы ўвагі на гэта, на супольнай малітве збіралася шмат сем'яў з дзецьмі. Я ўгаворваў іх, каб пайшлі ў адзін з гродзенскіх касцёлаў, а калі прыйдзе лета, зноў збярэмся разам. Аднак заўсёды чуў аднолькавы адказ: "Тут наша парафія і наш крыж. Мы будзем з Вамі". Гэта было цудоўнае сведчанне веры.*

*Найбольшай радасцю стаў для мяне дзень 20 снежня 2015 года, калі адбылося ўрачыстае асвячэнне новай капліцы і я запаліў там Вечную лямпу... Думаю, гэта адна з найлепшых і самых прыемных хвілін для кожнага святара.*

*15 гадоў святарства – не такі ўжо вялікі прамежак часу. Аднак за гэтыя гады я яшчэ больш умацаваўся ў перакананні, што для мяне няма іншага месца ў жыцці, чым святарства і паслуга для людзей, што Добры Пастыр і мяне выкарыстае для добрых спраў.*



## Кс. канонік Ян Кучынскі

*Мае 20 гадоў святарства мінулі як адзін дзень. Здаецца, толькі ўчора стаў ксяндзом... Выдатна памятаю той дзень – 26 чэрвеня 1999 года – і словы, што былі напісаны на маім прымiцыйным абразку. Гэта была цытата св. Аўгусціна: "Пане, дай мне сіл зрабіць усё, чаго Ты ад мяне прагнеш, а затым патрабуй ад мяне, чаго хочаш". Я прытрымліваюся гэтых слоў, малюся імі штодзённа і раблю ўсё, каб так было.*

*На працягу гэтых 20-ці гадоў я некаторы час выконваў абавязкі пробашча ў Тракелях, вучыўся ў Рыме, затым стаў пробашчам гродзенскай катэдры, дзе служу ўжо 15 гадоў. Тое, што мне ўдалося зрабіць у святыні, напэўна, лёгка заўважыць. Яшчэ як я быў клерыкам, прагнуў, каб касцёл св. Францішка Ксаверыя быў ззяючым, прыгожым, бо здаваўся крыху сумным. Можа, Пан Бог прыслухаўся да маіх думак і зрабіў пробашчам, такім чынам дазваляючы аднавіць яго. Акрамя таго, я выкладаю ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі, належу да секцыі па перакладзе кніг на беларускую мову, з'яўляюся біскупскім вікарыем і ўжо на працягу 12-ці гадоў – дэлегатам на Міжнародных эўхарыстычных кангрэсах. Бяруся за ўсё, што даручае Касцёл.*

*Найважнейшай задачай як для мяне, так і для кожнага святара з'яўляецца нясенне Евангелля. Мару, каб людзі пазналі Божую любоў і былі адкрытыя на Яго слова. А гэта патрабуе вялізных намаганняў. На жаль, многія вернікі прыходзяць у касцёл толькі па традыцыі, па прывычцы, а не з-за любові і глыбокай веры. Хацелася б, каб яны жылі Эўхарыстыяй, Божым словам і верай на кожны дзень.*

*Для мяне святарства – гэта вялікі дар і таямніца. Ніякіх планаў на будучыню не будую, толькі раблю ўсё, чаго Бог ад мяне хоча. Дзякую Пану за гэтае пакліканне і спадзяюся, што далей буду трываць у ім.*

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*







**Святы Айцец благаславіў брэсцкую ікону**

**Благаслаўленне іконы святых Кірыла і Мятода, арыгінал якой знаходзіцца ў грэка-каталіцкім храме ў Брэсце, адбылося пасля агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане 8 мая.**

*З папам Францішкам сустрэўся Апостальскі візітатар для грэка-каталікоў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек. "Мы хацелі б, каб абраз святароў-асветнікаў наведаў парафіі і сем'і нашай краіны. Таму я прасіў Папу благаславіць ікону з іх вывяай і гэтую душпастырскую ініцыятыву. Ён сказаў, што з радасцю нас благаслаўляе", – распавёў архімандрыт Гаек.*

*Пасля Святы Айцец звярнуўся да кіраўніка Грэка-каталіцкай Царквы ў Беларусі з просьбай: "Маліцеся за мяне, каб я таксама працягваў сваю місію з руплівасцю святых Кірыла і Мятода".*




**Жанчына супраць духоўных асоб**

**Іспанская паліцыя затрымала на Маёрцы жанчыну, якая словамі або фізічна напала на больш за 40 ксяндзоў і манаскіх сясцёр.**

*Паводле службоўцаў, ёй аказалася 46-гадовая грамадзянка Кубы. Акрамя праяўлення агрэсіі адносна людзей жанчына таксама шматразова здзяйсняла акты вандалізму на аб'ектах, кіруемых Каталіцкім Касцёлам: у святынях, катэхетычных класах і грамадскіх установах. З інфармацыі паліцыі вынікае, што ўсе гэтыя ўчынкі яна здзейсніла ў 2018–2019 гадах.*

*Кубінка была затрымана падчас таго, як пабіла працаўніка адной з крам і здзейсніла там крадзеж.*




**Забойцы Папялушкі стануць перад судом**

**Зноў будуць прыцягнуты да адказнасці 3-ое былых супрацоўнікаў IV Упраўлення Міністэрства ўнутраных спраў, асуджаныя за забойства кс. Ежы Папялушкі падчас торунскага працэсу.**

*Акружны суд у Варшаве даследуе, ці былі забойцы капелана Салідарнасці адказнымі таксама за пранікненне ў яго кватэру і падкідванне кампраметуючых святара матэрыялаў. Камуністычныя чыноўнікі абвінавачваюцца ў ілжывых паказаннях з мэтай падвергнуць кс. Папялушку праследаванню за злачынства. Падсудным прыпісваюць здзяйсненне злачынстваў супраць чалавечнасці.*



## Ці можна прыняць сакрамант канфірмацыі другі раз?

*Сакрамант канфірмацыі – гэта сакрамант духоўнай сталасці. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла вучыць, што “вынікам канфірмацыі з'яўляецца асаблівы водблеск Святога Духа, які раней быў падараваны апосталам у дзень Пяцідзясятніцы” (ККК, 1302). Дзякуючы гэтаму водблеску сакрамант канфірмацыі дае ўзрастанне і паглыбленне ласкі Хросту. Ён мацней укараняе верніка ў сыноўняй сувязі з Богам, якая дае магчымасць усклікаць: “Абба, Ойча!” (Рым 8, 15) – робіць больш дасканалай яго сувязь з Касцёлам. Таксама гэты сакрамант дае асаблівую сілу Святога Духа, каб словамі і справамі распаўсюджваць і абараняць веру, як сапраўдныя сведкі Хрыста, каб адважна вызнаваць імя Хрыстова і ніколі не саромецца Крыжа (ККК, 1302).*

*Кожны ахрышчаны католік можа і павінен прыняць сакрамант канфірмацыі. Каб яго атрымаць, неабходна вельмі добра падрыхтавацца. Гэта павінна падвесці хрысціяніна да глыбокага злучэння з Хрыстом, да жывога збліжэння са Святым Духам, з Яго дзеяннем, ласкай і натхненнем, каб ён змог лепш прыняць на сябе апостальскую адказнасць хрысціянскага жыцця. Катэхізацыя перад канфірмацыяй павінна абудзіць пачуццё прыналежнасці да Хрыстовага Касцёла: як да Паўсюднага Касцёла, таксама і да парафіяльнай супольнасці. А парафіяльная супольнасць, у сваю чаргу, нясе асаблівую адказнасць за падрыхтоўку да гэтага сакраманту.*

*Кс. д-р Міхал Кашоўскі ў “Навуцы Касцёла ў пытаннях і адказах” піша: “Сакрамант канфірмацыі абавязвае вернікаў будаваць Касцёл, прапаведуючы Евангелле, і актыўна займацца апостальскай працай. Нават калі хтосьці атрымаў яго не годным чынам, гэта значыць у стане смяротнага граху, не ўдзяляецца гэтага сакраманту ў другі раз, таму што ён прыняты правамоцна і, як хрост і святарства, пакідае ў душы глыбокі след, які завецца сакрументальным характарам. Праз яго чалавек асаблівым спосабам удзельнічае ў святарскім, прароцкім і пастырскім служэнні Хрыста, яднаецца з супольнасцю Касцёла і, у той жа час, абавязаны аддаваць пашану Богу. Сакрамант канфірмацыі, прыняты ў стане смяротнага граху, важны, аднак не прыводзіць да павелічэння асвячальнай ласкі, г. зн. Божага жыцця”.*

*У каноне 889 Кодэкса кананічнага права гаворыцца, што прыняць сакрамант канфірмацыі здольны кожны ахрышчаны (і толькі ахрышчаны), які яшчэ не быў канфірмаваны. Тое самае гаворыцца і ў Катэхізісе Каталіцкага Касцёла: “Сакрамант канфірмацыі, падобна да хросту, давяршэннем якога ён з'яўляецца, удзяляецца толькі адзін раз” (ККК, 1304). Бачым, што гэты сакрамант прымаецца вернікам толькі адзін раз у жыцці.*

*Кс. Аляксей Ляшко*
**Паводле catholicnews.by**

# Праз заступніцтва Маці Божай

Усе мы ведаем гісторыю дзяўчыны, абранай Панам дзеля здзяйснення вялікай перамогі Справядлівасці і Жыцця. Яна магла не прымаць прапанову, бо, як і кожны чалавек, створаны Богам, мела вольную волю. Але як Марыя сябе паводзіць? Пакорна згаджаецца, хоць яшчэ да канца не ўсведамляе, што Яе насамрэч чакае. Для незамужняй жанчыны насіць пад сэрцам дзіця ні ў які час не выглядае добра, выклікае асуджэнне грамадства. Аднак адважная дзяўчына дазволіла Богу кіраваць сваім жыццём, не зважаючы на тое, што маглі падумаць людзі.

Яна проста любіла – чыста і цнатліва, давярала Богу поўнасцю і без умоў. Ад першага позірку на Цуд у сваіх руках і да апошняга на крыжы Яна была пакорнай. Лёс Марыі не адрозніваўся прастатой, быў поўны вялікага сэнсу. Маці Божай шмат чаго давялося перанесці, шмат чаго страціць. Але ў жыцці Яна не пакідала месца адчаю, усе цяжкасці і турботы заўсёды ахвяравала Пану.

Амаль у кожным доме знойдзем абраз ці фігуру Багародзіцы. Вернікі з глыбокім замілаваннем і павагай ушаноўваюць Маці Збаўцы. На выявах Яна прадстаўляецца па-рознаму: з Дзіцяткам Езус, у кароне, з лілеяй, ружанцам, стралой ці мячамі ў сэрцы... Кожны з вобразаў нясе пэўны рэлігійны пасыл. Але ёсць агульныя элементы, якія робяць выявы падобнымі.

Звычайна колер сукенкі Марыі белы ці блакітны. Ён сімвалізуе дасканалую чысціню Маці Божай і нагадвае неба – тое месца, пра якое з дзяцінства марыць кожны, бо нібыта там і ёсць Рай. Мафорый (верхняя шата Багародзіцы) з'яўляецца знакам Яе мацярынства. Зоркі над галавой – сімвал беззаганнасці. Складзеныя далоні – пастава пакоры і поўнай адданасці Найвышэйшаму.

Каталіцкі Касцёл прысвячае Найсвяцейшай Панне Марыі найпрыгажэйшы месяц у годзе. У краінах паўднёвага паўшар'я традыцыйныя набажэнствы на ўшанаванне Багародзіцы адбываюцца ў каларытным кастрычніку. На тэрыторыі сучаснай Эфіопіі месяцам Маці Божай здаўна лічыўся снежань як найбольш маляўнічы час. На нашых землях гэта май – пара квітнеючых раслін, насычаных зялянінай дрэў і птушак, што заліваюцца спевам.

Раней дзеля ўшанавання Марыі вернікі праводзілі канцэрты. Да стоп Яе фігуры складалі кветкі, а галаву ўпрыгожвалі вянкамі. Паступова для праслаўлення Багародзіцы і выпрошвання заступніцтва Яе пачалі адорваць т. зв. “духоўнымі кветкамі” – малітвамі, адрачэннямі, добрымі справамі.

Незлічоная колькасць людзей па ўсім свеце штодзённа вымаўляе ўголас ці пра сябе: “Маліся за нас, Маці Божая!”. Вымаўляе гэтыя словы з верай і пяшчотай, бо яны нясуць у сабе неверагодную сілу і моц любові. Любові, якая не мае межаў, сілы, з якой можна перамагчы што заўгодна.

Вядома шмат прыкладаў таго, як малітва праз заступніцтва Маці Божай ратавала людзям жыццё, аздараўляла, дапамагала знайсці выхад са складаных сітуацый. Трэба ўсяго толькі скласці рукі з пакорай і, дзе б ні былі, падняць вочы ўгору: блакіт нябёсаў напоўніць душу спакоем і надасць упэўненасці ў тым, што ўсё будзе як мага лепш. Неабходна толькі давяраць Богу – на ўсе сто адсоткаў, як Найсвяцейшая Панна Марыя.

*Марыя Валюк*




***У кожнага чалавека свой шлях, свая жыццёвая дарога. Напэўна, не памылюся, калі скажу, што многія людзі мараць аб прэстыжных прафесіях і часта не разумеюць тых, хто ад усяго адракаецца, хто аддае сябе Богу і выбірае шлях святарскага служэння. Толькі адзінкі так могуць. Гэта пакліканне, Божы дар.***

*Сёння хачу расказаць пра вельмі цікавага і паважанага чалавека – нашага пробашча кс. Люцыяна Радомскага, які служыць у парафіі св. Ганны ў аграгарадку Лунна, што на Мастоўшчыне. Гэты святар – чалавек з вялікай літары! Яго простыя і такія мудрыя словы зразумелыя як малому дзіцяці, так і сталай асобе. Той, хто хоць аднойчы з ім сутыкнуўся, напэўна, пераасэнсаваў свой погляд на жыццё, глыбей пазнаў Божае слова.*

*Кс. Люцыян – патрыёт сваёй малой радзімы, якой для яго стала наша лунненская зямля. Нямногія так, як ён, ведаюць гісторыю гэтых мясцін і з такой цікавасцю і замілаваннем могуць аб іх расказаць. Можна ўпэўнена сцвярджаць, што дзякуючы любові святара да Лунна і мясцовага касцёла аб нашай парафіі ведаюць далёка за межамі Беларусі. А яшчэ мы ганарымся, што пробашч з'яўляецца канонікам Катэдральнага капітула Гродзенскай дыяцэзіі.*

*Якім жа быў шлях да святарства кс. Люцыяна? Ці мог ён калісьці падумаць, што будзе весці паству да Бога?*

*У 1949 годзе на ўскрайку Ваўкавыска ў каталіцкай сям'і Радомскіх нарадзіўся хлопчык, якому далі імя Люцыян. Ён, як і многія іншыя, рос у пасляваенныя, атэістычныя часы, калі рэлігію лічылі опіумам для народа. Аднак людскую веру ў Бога не здолеюць выкараніць нават самыя заўзятыя атэісты, бо яна перадаецца з малаком маці, жыве ў чалавечай душы.*

*У юнацкія гады хлопец пра святарства не мог нават падумаць – з дзяцінства марыў пра медыцыну. Але Усявышні нярэдка ўносіць карэктывы ў нашы планы. Пасля заканчэння школы юнак з благаслаўлення бацькоў паехаў у Тарту (Эстонія) паступаць вучыцца на ўрача, але недабраў паўбала. Вярнуўся дамоў, уладкаваўся на чыгунку, дзе працавалі бацькі, але па-ранейшаму жыў марамі пра медыцыну.*

*На наступны год хлопец паступіў у медыцынскае вучылішча ў Слоніме. Паспяхова закончыў вучобу і накіраваўся на працу ў Літву. У Эйшышках выконваў абавязкі фельчара хуткай дапамогі. Гэтыя 9 гадоў не былі простымі, бо медык з “хуткай” кожны раз павінен рэагаваць, думаць і прымаць рашэнні аператыўна. За гэты час хлопец таксама паспеў скончыць мединстытут у Вільнюсе.*

*Здавалася б, мара споўнілася. Але зноў нечаканы паварот у лёсе. “Бог піша роўна, проста піша на крывых людскіх дарогах”, – разважае кс. Люцыян пра тую жыццёвую сцежку, якая прывяла яго на шлях святарства. Сваё паступленне ў Каўнаскую вышэйшую духоўную семінарыю ён інакш як Божай воляй растлумачыць не можа. Родныя жаданне стаць святаром падтрымалі: “Дактароў у нас многа, а ксяндзоў не хапае”.*

*27 мая 1984 года Люцыян Радомскі прыняў святарскія пасвячэнні і пачаў душпастырскую дзейнасць у Вільнюсе, у касцёле Святога Духа. Служыў там 2 гады, а ў красавіку 1986 года вярнуўся ў Беларусь. З таго часу з'яўляецца пробашчам лунненскай парафіі. Быў перыяд, калі кс. Люцыяна запрасілі чытаць лекцыі ў Гродзенскую вышэйшую духоўную семінарыю, дык парафіяне не маглі дачакацца, калі ён вернецца назад.*

*Гэтай вясной святар адзначыў 70-гадовы юбілей. У маі спаўняецца 35 гадоў яго душпастырскай дзейнасці. Верай і праўдай служыць кс. Люцыян Богу, настаўляе людзей на шлях хрысціянскіх вартасцей. Лічу, што лунненцам у свой час пашанцавала з пробашчам, бо дзякуючы сваёй эрудыцыі і мудрасці кс. Люцыян умее знайсці правільны падыход да кожнага.*

*Мясцовыя вернікі не нацешацца са свайго пастыра: ён разам і ў бядзе, і ў радасці, з іншымі працуе, калі патрэбна навесці парадак вакол касцёла ці на могілках. А колькі ў яго планаў і задум!*

*З нагоды юбілею святарскіх пасвячэнняў вернікі парафіі св. Ганны ў Лунне ад шчырага сэрца прагнуць пажадаць свайму пробашчу патрэбных Божых ласкаў, апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа, здароўя на доўгія гады, поспехаў у паслузе, стойкасці на душпастырскім шляху і зычлівых людзей побач.*

***Паважаны кс. Люцыян, мы ўдзячны Вам за нястомную працу на ніве Пана, абвяшчэнне Божага слова, духоўную апеку, клопат і ўвагу да кожнага, хто шукае шлях да Найвышэйшага. Нізкі паклон за шчырую малітву, цярплівасць, дабрыню і разуменне. Мы ўсе молімся за Вас.***

*Ад імя ўсіх парафіян Алена Лунеўская*

## НАВІНЫ



## ПЕРШАЯ КАМУНІЯ І САКРАМАНТ КАНФІРМАЦЫІ

У месяцы маі ў многіх парафіях дыяцэзіі дзеці пасля адпаведнай падрыхтоўкі ўпершыню прыступаюць да св. Камуніі. Яны запрашаюць Пана Езуса ў сваё сэрца на ўсё жыццё. Прагнуць, каб Бог умацоўваў іх духоўны і фізічны рост. Сапраўднае духоўнае вымярэнне Першай св. Камуніі звязана з вялікім заданнем, таму што з гэтага моманту кожнае дзіця становіцца поўнасцю адказным за ўсе свае ўчынкі.

У той самы час біскупы Гродзенскай дыяцэзіі накіроўваюцца ў парафіі, каб умацаваць вернікаў сямікратным дарам Святога Духа. Праз прыняцце сакраманту канфірмацыі маладыя людзі адкрываюцца на Божае ўздзеянне і абяцаюць мужна вызнаваць сваю веру і паступаць паводле яе правіл. У межах падрыхтоўкі да гэтай важнай падзеі, сярод іншых, моладзь з парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне адбыла пілігрымку ў санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь), каб перад цудатворным абразом прасіць Марыю быць у сучасным свеце адважнымі вызнаўцамі Яе Сына.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў парафію ў Скідзелі (дэканат Гродна-Усход), каб разам з вернікамі перажыць парафіяльны адпуст у гонар св. Юзафа, рамесніка. У літургічны ўспамін св. Станіслава іерарх унёс яго рэліквіі ў капліцу св. Станіслава, біскупа, і св. Максімільяна Кольбэ ў Каробчыцах (дэканат Гродна-Захад).

Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ўзначаліў юбілейныя ўрачыстасці з нагоды 500-годдзя парафіі св. Альжбеты Венгерскай і Божай Міласэрнасці ў Падароску (дэканат Ваўкавыск). Падчас св. Імшы сабраныя асаблівым чынам маліліся за парафіяльную супольнасць і за тых, хто духоўна і матэрыяльна яе падтрымлівае. Біскуп Юзаф наведаў таксама сваю родную парафію ў Заневічах (дэканат Вялікая Берасцавіца), дзе асвяціў новы абраз Найсвяцейшага Сэрца Езуса, змешчаны ў галоўным алтары святыні.

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



Члены Асацыяцыі Марыі Успамогі Хрысціян са Смаргоні наведалі парафію Найсвяцейшай Тройцы ў Войстаме (дэканат Смаргонь), каб духоўна падрыхтавацца да свята Марыі Успамогі Хрысціян.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Міжнародны вечар каталіцкай культуры адбыўся ў лідскім Доме культуры. Сустрэча была арганізавана малітоўнай групай "Gloriosa Trinita", якая актыўна дзейнічае і развіваецца пры мясцовай парафіі Святой Сям'і. Дэвізам вечара сталі словы: "Праз Марыю да Езуса".

У гродзенскай парафіі Маці Божай Анёльскай адбыўся Велікодны канцэрт. У праграме прагучалі падрыхтаваныя дзецьмі і моладдзю парафіі вершы і песні, прысвечаныя ўваскрасенню Хрыста.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Дыяцэзіяльны дзень маці адзначылі ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы (дэканат Гродна-Захад). • Жанчыны з Ашмянаў прайшлі ў пешай пілігрымцы да абраза Маці Божай Суцяшальніцы Засмучаных у Барунах (дэканат Ашмяны). • Малітва ў інтэнцыі жывых і памерлых мам дыяцэзіі адбылася ў санктуарыі ў Тракелях. • Рэкалекцыі для святароў прайшлі ў тракельскім санктуарыі. • Свята св. Дамініка Савіо адзначылі пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні. • У в. Даўнары Лаздунскай парафіі (дэканат Іўе) быў асвечаны новы крыж. • Сёлетнія выпускнікі са Шчучына здзейснілі пілігрымку ў Будслаў. • 11 маладых хлопцаў і дзяўчат з парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку ўступілі ў "Рух чыстых сэрцаў".

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**26 мая 1951 г.** – кс. Ян Рудзінскі, *проб. Адэльск;*
**1 чэрвеня 1964 г.** – кс. Францішак Кафарскі, *проб. Іўе.*

## АНОНСЫ

### IV АГУЛЬНАБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС СЯМЕЙНЫХ РУХАЎ ПРОЙДЗЕ ПАД НАЗВАЙ "БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ"

**Кангрэс адбудзецца з 7 па 9 чэрвеня ў Ляскоўцы, што пад Мінскам.**

На мерапрыемстве прагучаць даклады, у якіх будзе раскрыта філасофская канцэпцыя сям'і, спецыфіка адносін паміж маці і дачкой, праблематыка небяспечных паводзін дзяцей і моладзі, звязаных з віртуальным светам і інш. Таксама будзе дзейнічаць майстэрня "Суперцесць, суперцешча".
Кангрэс арганізоўваецца Радай па справах сям'і пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.

*Запіс па тэлефоне: (8 029) 588-42-73 – Ірына Мялешка.*

### "ЛЮБЧЫ З БОЖАЙ ЛАСКІ ПРЫСВЯЧЭННЕ"

**Паэтычны конкурс пад такой назвай аб'яўляе парафія св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. Ён прымеркаваны да асвячэння капліцы ў гарадскім пасёлку Любча, якое адбудзецца 29 чэрвеня.**

Да разгляду прымаюцца вершы ўласнага сачынення на беларускай, рускай і польскай мовах. Конкурсныя работы павінны мець духоўны змест і быць прысвечаны гістарычнаму мінуламу або сённяшняму дню Любчы. Гэта могуць быць творы пра вернікаў, знакамітых асоб і нашых сучаснікаў, пра хрысціянскія святыні, прыроду і культуру пасёлка.
Пераможцы атрымаюць каштоўныя падарункі, а лепшыя творы будуць надрукаваны на старонках парафіяльнай газеты "Каталіцкі Навагрудак".
Вершы і кароткі аповед пра сябе неабходна даслаць да 15 чэрвеня на адрас: парафія св. Міхала Арханёла, 231400 г. Навагрудак, вул. Савецкая, 2 – альбо на электронную пошту: faiushka@mail.ru.

*Даведкі па тэлефоне: (8 029) 787-15-89.*

### IX ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ ПРОЙДЗЕ Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства адбудзецца 1 чэрвеня на тэрыторыі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (мікрараён Паўднёвы) пад дэвізам "Сям'я – дом любові".**

Арганізатары рыхтуюць цікавую насычаную праграму (забавы, гульні, конкурсы), а найперш малітву, Эўхарыстыю, якую ўзначаліць біскуп. Да распрацоўкі плана сустрэчы заахвочваюцца ўсе жадаючыя. Тым, хто хацеў бы прадставіць тэатральную сцэнку, спеў на сцэне або мае іншыя прапановы, якія маглі б узбагаціць мерапрыемства, прапануецца папярэдне скантактавацца з арганізатарамі.
На сустрэчу запрашаюцца дзеці з Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама з іншых куткоў Беларусі, каб разам у малітве і забаве добра правесці час. Колькасць удзельнікаў не абмежаваная. Арганізатары забяспечваюць кожнага харчаваннем на працягу дня.

*Аб сваім удзеле неабходна паведаміць да 26 мая кс. Юрыю Марціновічу, арганізатару і адказнаму за Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці, на e-mail: sakralna@op.pl – або па тэлефоне: (8 029) 784-05-72.*

### XI ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ ПАРАФІЯДА ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Дэвіз сёлетняга мерапрыемства – "Сям'я – дарога Касцёла".**

Парафіяда будзе праходзіць 11–14 чэрвеня ў парафіях Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы), Найсвяцейшага Адкупіцеля (Гродна-Дзевятоўка) і на стадыёне ЦСК "Нёман". Арганізатары забяспечваюць удзельнікам харчаванне і пражыванне, выхаваўча-рэлігійную, культурную і спартыўную праграму.
Да ўдзелу запрашаюцца дзеці і моладзь ва ўзросце ад 10-ці да 19-ці гадоў з усёй Беларусі. Максімальная колькасць удзельнікаў ад адной парафіі – 15 чалавек + 1 апякун (можа быць і меншая група).

*Пацвердзіць удзел у Парафіядзе неабходна да 1 чэрвеня па тэлефонах: (8 033) 624-35-22, (8 029) 319-54-65 – кс. Артур Малафей.*

### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

У рэдакцыі газеты "Слова Жыцця" з'явіўся дадатковы, мабільны нумар тэлефона:

**(8 029) 571-30-77 (МТС).**

*Разам з гэтым з'явілася магчымасць дасылаць паведамленні праз СМС або Viber.*
*Просьба звязвацца з рэдакцыяй у гадзінах: 09.00–17.00.*

## Каляндар падзей

***23 мая***
*28-ая гадавіна біскупскіх пасвячэнняў Пастыра дыяцэзіі. Молімся ў інтэнцыі ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча і яго плённай апостальскай паслугі ў нашай дыяцэзіі.*

***24 мая***
*Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Дапаможніцы Вернікаў.*

***27–29 мая***
*Дні малітвы за добры ўраджай і за галадаючыя краіны.*

***30 мая***
*Урачыстасць Унебаўшэсця Пана.*

***31 мая***
*Свята Наведвання Найсвяцейшай Панны Марыі. Заканчэнне маёвага набажэнства.*

***1 чэрвеня***
*Сусветны дзень дзіцяці. Молімся за дзяцей і клапоцімся аб іх рэлігійным выхаванні. Распачацце чэрвеньскага набажэнства.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Май***
*Аб Божым благаслаўленні і апостальскай стараннасці ў кіраванні дыяцэзіяй для Пастыраў Гродзенскага Касцёла. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

***Чэрвень***
*Аб Божым благаслаўленні для парафіяльных супольнасцей нашай дыяцэзіі, якія будуюць новыя святыні. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

# Дзіцячы куточак

## Як выглядае Маці Божая?

**_Прывітанне, Маленькі Чытач! Перажываем цудоўны месяц май, які з'яўляецца месяцам, прысвечаным Марыі. Напэўна, многія з нас хацелі б ведаць, як на самой справе выглядае Маці Божая. Сёння можна ўбачыць разнастайныя Яе выявы, якія адрозніваюцца паміж сабой, але ў той жа час вельмі падобныя адна да адной. А некаторым нават пашчасціла ўбачыць Марыю на ўласныя вочы падчас аб'яўленняў. Адныmi з такіх шчаслівчыкаў з'яўляюцца дзеці з Фацімы._**

*102 гады мінула, як Маці Божая паказалася ў малавядомым тады яшчэ мястэчку ў Партугаліі тром маленькім пастушкам: Люцыі, Францішку і Жасінце.*

*Францішак не сумняваўся ў тым, што бачыў Багародзіцу, але быў адзіным, хто не мог пачуць, што Яна кажа. Паводле слоў хлопчыка, Марыя прыйшла хутка, з усходу, і спынілася над дубам. Адышла ў бок кропкі ў небе, дзе ўзыходзіць сонца. Была апранута ў белую вопратку з залатым арнаментам і плашч, які пакрываў усю Яе постаць. Рукі трымала складзенымі, як быццам да малітвы, і мела ў іх ружанец з белых пацерак. "Я ніколі не бачыў нікога прыгажэй, чым Яна", – з захапленнем казаў Францішак.*

*Жасінта, апісваючы Багародзіцу, дадала, што ў Маці Божай быў залаты пояс вакол таліі, які вісеў аж да краю адзення. Дзяўчына таксама адзначыла, што Марыя не мела абутку – Яе ногі былі вельмі беднымі. Складвалася ўражанне, быццам мела на сабе белыя шкарпэткі.*

*Цікава, што Люцыя не бачыла пояса, але звярнула ўвагу на маленькія залатыя завушніцы, якіх не заўважылі ні Францішак, ні Жасінта.*

*Люцыі здавалася, што Багародзіца выглядала на 15-гадовую дзяўчыну. Яна адзначала, што ў часе аб'яўленняў апускала вочы долу, таму што святло, якое зыходзіла ад Марыі, ззяла так моцна, што ад яго балелі вочы. Дзяўчынка прызналася, што ў першы раз дзеці хацелі ўцячы, таму што спалохаліся, але Марыя супакоіла іх, запэўніла, што не трэба баяцца, што не ўчыніць ім ніякай шкоды. Паведаміла Люцыі, што прыходзіць з нябёсаў, але не сказала, хто Яна. Абяцала адкрыць ім гэтую таямніцу падчас апошняга аб'яўлення.*

*Усе дзеці ўспаміналі, што Марыя не ўсміхалася і не плакала: была сур'ёзная. "Потым, – расказвае Люцыя, – Яна пачала плаўна ўздымацца ў кірунку ўсходу, пакуль нарэшце не знікла ў бязмежнай далечыні неба. Святло, якое атуляла Марыю, здавалася, пракладвала Ёй шлях праз зоркі".*

*Постаць Найсвяцейшай Панны Марыі выпраменьвае незвычайную пяшчоту і цеплыню. Чалавек з вялікім замілаваннем і даверам углядаецца ў аблічча Маці, якая заўсёды апекуецца сваімі дзецьмі. Дапамагае кожнаму, хто звяртаецца да Яе, і ніколі не пакідае ў бядзе, асабліва хворых і пакрыўджаных. Прыкладам гэтага з'яўляецца наступная цікавая гісторыя.*

***Быў ціхі вечар. Трое дзяцей – Цэзар, Антоній і Джавані Анджэла – радасна гулялі на пляцы каля касцёла. Джавані Анджэла быў глухім і нямым ад нараджэння хлопчыкам і не мог далучыцца да радасных крыкаў іншых дзяцей. Ён мог удзельнічаць у гульні толькі з дапамогай жэстаў. І, як бы гэта не было сумна, не чуў нават гукаў касцёльных званоў, якія нагадвалі дзецям, што час адпачынку скончыўся і трэба вяртацца дадому. Пра гэта яму падказвалі сябры. Але ў той дзень усё пайшло інакш…***

***Фасад касцёла ўпрыгожвала фрэска з выявай Мадонны і малога Езуса, які сядзеў у Яе на каленях. Марыя вельмі сумавала, назіраючы за хлопчыкам у двары, які ніколі не здолее вымавіць ні слова сваім сябрам. Ён не мог нават памаліцца "Вітай, Марыя", калі ўсе збіраліся на малітву. Таму Марыя папрасіла Езуса: "Сын мой, спусціся да тых Тваіх равеснікаў і зрабі сёння нешта прыгожае, каб забраць мой боль. Сэрца разрываецца, калі гляджу на гэтага хлопчыка".***

***Тады Божы Сын адарваўся ад фрэскі і пайшоў, каб змяшацца з дзецьмі. У той час як яны працягвалі бегаць і гаманіць, здарыўся цуд. Джавані Анджэла пачаў размаўляць і радасна крычаць! Ды не нейкія там гартанныя гукі, а цэлыя фразы, якія выцякалі з яго вуснаў ясна і ўпэўнена. Хлопцы спачатку не зразумелі, што адбываецца. Але раптам Цэзар спыніў гульню, схапіў нямога дагэтуль хлопчыка і звярнуў увагу ўсіх на тое, што ён гаворыць. Джавані Анджэла быў вельмі шчаслівы і сказаў: "Гэта сталася дакладна тады, калі гэты новы Хлопчык, бегаючы сярод нас, крануў мяне за плячо".***

***Цэзар і Антоній глядзелі на яго недаверліва і на момант анямелі ад здзіўлення. Але ў тое ж імгненне гук званоў папярэдзіў іх, што прыйшоў час вяртацца дадому. Упершыню Джавані Анджэла быў тым, хто крыкнуў усім: "Час вяртацца!". На гук званоў Марыя спусцілася на зямлю, узяла Езуса за руку і сказала: "Нам таксама час вяртацца туды, у вышыню". І яны разам вярнуліся ў фрэску.***

*Вось так, Маленькі Чытач, нічога немагчымага не бывае ў Марыі, калі Яна штосьці просіць у свайго Сына. Езус не можа адмовіць у наданенні сваёй ласкай таго, хто звяртаецца да Яго Маці. Ты таксама можаш звяртацца да Яе ў кожны момант, а асабліва ў гэты прыгожы месяц май, прысвечаны Марыі.*

**Заданне:** ***падрыхтуй у сваім пакоі маленькі алтарык для Маці Божай і кожны дзень да канца месяца мая маліся Ларэтанскай Літаніяй да Найсвяцейшай Панны Марыі, просячы аб усіх неабходных ласках для сябе і сваіх блізкіх.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Галоўнаму Рэдактару Ксяндзу Юрыю Марціновічу**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, як мага больш прычын для радасці, поспехаў ва ўсіх пачынаннях і добразычлівых людзей побач. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, выконваемая паслуга прыносіць задавальненне, а міласэрны Бог шчодра ўзнагароджвае Вас сваімі ласкамі.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем вялікай адвагі, мудрасці, радасці, супакою, Божай ласкі і апекі святога Заступніка. Няхай кожны дзень будзе прыемнай прыгодай на шляху да святасці, а Святы Дух, які так моцна дакранаецца да Вас, няхай дрyкуе прыгожую кнігу Вашай працы на Божай ніве. Як Майсей, з'яўляецеся правадыром нашай парафіі, а мы, як народ ізраільскі, абяцаем слухацца і маліцца за Вас.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёва*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Урбановічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, стойкасці ў душпастырскай працы, апекі Найсвяцейшай Маці і шмат прыгожых хвілін на складаным, але найпрыгажэйшым шляху, які выбраў для Вас Пан. Няхай Святы Дух пранікне ў глыбіню сэрца і прынясе радасць, суцяшэнне і шмат дзён, напоўненых Яго дарамі. Шчасці Божа!

*Апостальская супольнасць "Маргарытка" з парафіі Дуды*

**Паважанай Сястры Зоф'і Смятанцы**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог узнагароджвае моцным здароўем на доўгія гады і адорвае стойкасцю ў паслузе, Езус Хрыстус асвячае шлях, а Найсвяцейшая Маці заўсёды ахінае апекай.

*Са шчырай малітвай дзеці і парафіяне з Жамыслаўля*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды Імянін і 5-годдзя паслугі ў нашай парафіі ад шчырага сэрца жадаем доўгіх гадоў жыцця, радасці, шчасця, моцнага здароўя і ўсіх Божых ласкаў. Няхай кожны новы дзень прыносіць толькі добрыя навіны, трывогі і смутак не закранаюць сэрца, паслуга будзе доўгай, а міласэрны Бог шчодра ўзнагароджвае за яе. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітву і павучальныя казанні, якія глыбока пранікаюць у людскія душы і радуюць сэрцы.

*Касцёльны камітэт, дзеці, моладзь, парафіяне і Кола Жывога Ружанца з Жамыслаўля*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Урбану**

з нагоды Дня нараджэння і 16-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, радасці і поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай Езус Хрыстус ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая ахінае любоўю і апекай, а Святы Дух удзяляе шчодрыя дары. Імкніцеся за Панам з верай і надзеяй, цешцеся свету і сустрэтым людзям, а Ваша сэрца няхай напаўняе любоў.

*Удзячныя вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Зайко**

з нагоды 18-ай гадавіны святарскай паслугі перасылаем букет сардэчных віншаванняў. Святарства – гэта незвычайны цуд, невычэрпная сіла, светлая і моцная заслона. Бог даў Вам мудрасць і прастату, цярплівасць, любоў і сваю апеку. Вы дорыце людзям дабрыню і надзею, вяртаеце да веры. Няхай Маці Божая, якая дaручыла свайго Сына ў Вашы рукі, заўсёды абараняе сваёй мацярынскай любоўю, а Езус благаслаўляе Вашу святарскую працу.

*Парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Урбановічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, шчасця, радасці, дабрыні і любові на кожны дзень, добразычлівых людзей побач. Няхай Пан благаслаўляе Вас, Святы Дух адорвае сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці нястомна атуляе сваёй любоўю.

*З удзячнасцю і павагай былыя парафіяне з капліцы св. Яна Паўла II, Смаргонь*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Сідорку і ўсім яго родным**

выказваем словы шчырага жалю ў сувязі са смерцю таты. Яднаемся з Вамі ў малітве, дзелячы боль і смутак. Няхай міласэрны Бог дасць сілы, каб перажыць цяжар страты роднага чалавека. Вечны супакой для памерлага!

*Касцёльны камітэт і парафіяне, Ліда-Фара*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2257; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная